Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная Газета

• №43(79) • ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ • 25-31 кастрычніка 1996 года. • Цана 1500 руб.

## Падзея тыдня

Напярэдадні падзей мінулых выхадных Вярхоўны Савет звярнуўся да ўдзельнікаў Усебеларускага народнага схода і Нацыянальнага Кангрэсу "У абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры" са зваротам, у якім было падкрэслена, што іх рашэнні могуць мець выключна кансультацыйны характар. Парламент у чарговы раз пацвердзіў сваю гатоўнасць да пошуку кампрамісаў і згоды на падставе так званага "нулявога варыянту" (адкліканне абодвух варыянтаў Канстытуцыі).

Далей падзеі ў сталіцы разгортваліся такім чынам: 18 кастрычніка ў Палацы культуры прафсаюзаў прайшоў Нацыянальны Кангрэс. Адметнай рысай яго стала тое, што арганізацыю на сябе ўзяў аргкамітэт з ліку вядомых палітычных дзеячаў краіны, якія пазней і ўвашлі ў склад Прэзідыўма Кангрэсу– Г. Таразевіч, Г. Бураўкін, С. Багданкевіч, А. Бухвостаў, Г. Карпенка, Ю. Захаранка, Я. Брыль, Ю. Хадыка, С. Шушкевіч.

Выснова ўсіх дэлегатаў, што выступалі на ім, была аднолькавая: існуючая Канстытуцыя адпавядае патрабаванням Беларусі, а праект прэзідэнта ўстановіць вяршэнства толькі адной галіны ўлады, а калі яшчэ дакладней– то аднаго чалавека. У рэзалюцыі Кангрэсу адзначаецца, што "галоўнай крыніцай напружанасці ў краіне з'яўляецца прэзідэнт Лукашэнка". Вызначана была і тактыка дзеяння апазіцыі ў сённяшняй палітычнай сітуацыі: не байкатаваць рэферэндум, а весці тлумачальную работу, арганізоўваць кантроль за галасаваннем.

Своеасаблівым працягам Кангрэсу стаў на наступны дзень мітынг у падтрымку Канстытуцыі ля опернага тэатра. Пасля заканчэння мітынгу частка яго ўдзельнікаў накіравалася да Палаца спорту, дзе пачаў сваю работу Усебеларускі народны сход. Там людзей спынілі сілы аховы правапарадку.

А прэзідэнт Беларусі два дні раіўся з пасланцамі народа па актуальных праблемах жыцця нашага грамадства. Спачатку выступіў ён сам з дакладам "Толькі народ мае права вызначаць свой лёс". На наступны дзень пачалося абмеркаванне даклада. Адзін з галоўных вынікаў гэтай сустрэчы– падтрымка дэлегатамі палітычнага і эканамічнага курсу кіраўніка дзяржавы, якая была выказаная ў прынятай на сходзе рэзалюцыі. Дэлегаты форуму асудзілі дзеянні апазіцыйных сіл у парламенце, накіраваныя, на іх думку, на раскол грамадства, і выказалі жаданне да далейшага канструктыўнага супрацоўніцтва ўсіх галін улады.

У сувязі з тым, што прэзідэнт выступіў з заявай аб згодзе правесці рэферэндум 24 лістапада, дэлегаты сходу прапанавалі Вярхоўнаму Савету зняць з рэферэндуму пытанні, вылучаныя дэпутатамі-камуністамі і аграрыямі. Гэтую прапанову наўрад ці можна назваць кампраміснай, і ў сіле застанецца, хутчэй за ўсё, "нулявы варыянт"– як больш важкі. Але да рэферэндуму застаўся месяц і сітуацыя можа за гэты час кардынальна змяніцца.

*Аляксандр УЛАДЗІН*

## Адным абзацам

❑Прэзідэнт А. Лукашэнка прапанаваў Вярхоўнаму Савету разгледзець праект закона РБ "Аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынствы". Перш за ўсё гэта датычыцца людзей, што ўчынілі малазначныя злачынствы, маюць малых дзяцей, а таксама пенсіянераў і жанчын.

❑У Мінску на плошчы Свабоды 17 кастрычніка Федэрацыя прафсаюзаў правяла мітынг "Так– працы, не– галечы", на які сабралася каля тысячы чалавек, каб выказаць сваю незадаволенасць нізкім узроўнем зарплаты і ростам беспрацоўя. Удзельнікі прынялі рэзалюцыю, у якой заклікаюць усе грамадскія арганізацыі і грамадзян дапамагчы людзям, што трапілі ў цяжкія ўмовы, у тым ліку і матэрыяльна.

❑Пасля вераснёўскага маладзёжнага форуму ў краіне з'явілася новая арганізацыя моладзі Беларусі "Прамое дзеянне", якая, па словах яе лідэра, павінна аб'яднаць людзей, што не адносяць сябе да правых ці левых.

❑Усё большае абурэнне выклікаюць злачынствы так званых сатаністаў. Так, 19 кастрычніка ў Заслаўі іх рукамі была спалена Спаса-Праабражэнская царква– помнік дойлідства 17 ст. Узбуджана крымінальная справа, вядзецца следства.

❑За апошні тыдзень курс долара перасягнуў планку 20-ці тысяч рублёў. Гэта звязана з тым, што Нацбанк для падтрымання канкурэнтаздольнасці банкаў у адносінах да "чорнага" рынку ўвёў новы каэфіцыент для каціроўкі наяўнай валюты. Ён падвышаны да 1,3.

❑З 31 кастрычніка па 2 лістапада ў выставачным комплексе "Мінскэкспа" на III Міжрэгіянальную выстаўку-кірмаш тавараў і паслуг збяруцца прадпрыемствы Кіеўскай, Маскоўскай, Мінскай абласцей і горада Мінска.

❑23 кастрычніка ў Мінску адкрыліся Дні культуры Малдовы на Беларусі. І ў гэты ж дзень жыхары вёскі Палачаны Маладзечанскага раёна былі рады вітаць удзельнікаў малдаўскага ансамбля "Жок", які даў канцэрт на мясцовай сцэне.

❑Днямі падпісаны ўказ прэзідэнта Баварскай рэспублікі аб перарэгістрацыі шлюбаў. У адпаведнасці з ім, грамадзяне павінны да 1.01.1997 г. перарэгістраваць свае шлюбы ва ўстаноўленым парадку. Пра гэта паведаміла агенцтва "Бананінфарм".

# Гадзіннік ад Лукашэнкі

**Раз у месяц - "тоўсты" нумар**

*СМАРГОНЬ. Дэлегат Усебеларускага народнага схода галоўны юрысконсульт ВА "Завод аптычнага станкабудавання" Ягор Лявіцкі супраць рэзалюцыі сходу:*

– Я юрыст і выступаю супраць прэзідэнцкага праекта Канстытуцыі, у якім парушаны прынцып раздзялення улад,– адказаў ён на пытанне "РГ".– Працоўны калектыў дэлегаваў мяне на сход, і я не меў маральнага права адмовіцца. А вось на папярэдняй сустрэчы кіраўніцтва вобласці з дэлегатамі ад Смаргоншчыны, Ашмяншчыны, Астравеччыны вырашыў не прысутнічаць: прызнавацца ў любві да мужчыны, хай сабе і прэзідэнта, няма падстаў.

Мясцовыя выканаўчыя ўлады ведаюць погляды Лявіцкага і, да іх гонару, "прафілактычных" размоў з ім не праводзілі. Уражанні ж ад наведвання сталіцы ў дэлегата не самыя лепшыя: ніхто не сустракаў - свята не адчувалася :

– Мы былі быццам тыя змоўшчыкі: запісаўся на выступленне, але слова не дачакаўся. Калі пры галасаванні прасілі ўзняцца тых, хто супраць– я ўстаў. Адчуваў сябе спакойна. Такіх было чалавек 30. Але называлі лічбу 11. Тых, хто ўстрымаўся, было 47. За гэты мой грамадзянскі крок пакуль не рэпрэсіравалі. На памяць атрымаў гадзіннік, як і ўсе дэлегаты. Прадам яго прыхільніку прэзідэнта, ці выстаўлю на аўкцыён.

*Аддзел інфармацыі.*

## Навіны

### "Санітараў" зловяць за руку?

*МАЛАДЗЕЧНА. Па сведчанню нашага чытача Алеся Цадко, у горадзе дзейнічае нейкая "санітарная каманда" па здзіранні лістовак і афіш дэмакратычных сіл. У апошні раз акцыя па "знішчэнні" абвестак была праведзена перад прыездам у горад Генадзя Карпенкі і Юрыя Захаранкі.*

Гарадскія ўлады катэгарычна адмаўляюць хоць якую-небудзь прыналежнасць да ўдзелу ў "санітарных" мерапрыемствах. Хутчэй за ўсё, гэта справа рук палітычных апанентаў дэмакратаў. Ва ўсякім выпадку, створаны нядаўна ў Маладзечне каардынацыйны камітэт з удзелам АГП, БНФ, жаночай партыі "Надзея", Беларускага дэмаб'яднання "Ветэран", Беларускага Дэмакратычнага Саюза Моладзі паставіў на мэце ўстанавіць свой кантроль за дзейнасцю ананімных "санітараў".

*Аддзел інфармацыі.*

### Каб выздараўлівалі дзеці

*СМАРГОНЬ. Сёлета на Смаргоншчыну з дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" паступала ўжо гуманітарная дапамога– салодкая суспензія– антыбіётык шырокага ўжытку аўстрыйскай вытворчасці.*

Было перададзена дзіцячаму аддзяленню тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання 4400 флаконаў гэтых дэфіцытных лекаў і 1600 флаконаў у Залескую сельскую бальніцу .

Днямі такія лекі паступілі з фонду і ў Крэўскую сельскую бальніцу. На гэты раз 960 флаконаў. Тэрмін годнасці лекаў пазначаны "да красавіка 1997 года".

*Віктар ШОЦЬ.*

### Я табе паверу, тэлефон даверу

*АСТРАВЕЦ. Новаўвядзенні цяперашнім часам хутчэй рэдкасць, чым наадварот. Мажліва, такое тычыцца многіх устаноў, але мясцовая мытня ў гэтым плане прыемнае выключэнне. Нядаўна тут устанавілі "тэлефон даверу".*

– Такі крок,– падзяліўся падчас гутаркі намеснік начальніка мытні Юрый Шыхаўцоў,– падказаў час. Справа ў тым, што збоку заўсёды лепш відаць, як ты выконваеш сваю работу, дзе дапускаеш пралікі і г. д.

Цяпер, калі накруціш нумар 21597, можаш паведаміць пра адносіны мытнікаў да кліентаў, унесці свае прапановы па мытнаму рэжыму, расказаць пра "ЧП" на пастах. Можна, натуральна, тэлефанаваць аб розных з'явах.

Ёсць першыя званкі. Якія– пакуль сакрэт, бо вядзецца праверка фактаў. Такі тэлефон на Астравецкай мытні ўстаноўлены адным з першых. Падобныя ў хуткім часе з'явяцца ў Паставах і Ашмянах.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Турысты купілі ў Радашковічах слана

*МАЛАДЗЕЧНА. "Пілігрымцы" (па назве клуба) з велапаходу прывезлі слана. Двухсотграмовы сувенір у колькасці да 10 тысяч у месяц выпускае ВА "Белмастацкераміка".*

А пачалося так. Фірма з Віцебска атрымлівае з Індыі гарбату. Да якаснага тавару неабходна якасная ўпакоўка. Спецыялісты з Радашковічаў, паламаўшы галовы, нарадзілі керамічнага слоніка. Задаволены ўсе: у віцябчан гарбата пачала хутка разыходзіцца, а маладзечанцы купляюць слана на сувеніры.

*Аддзел інфармацыі.*

### Макаронны край

*МЯДЗЕЛ. Сваёй макароннай фабрыкі тут няма, аднак гэтай прадукцыі выпускаецца 45 тон у месяц. І выконваюць увесь аб'ём работ 18 чалавек. Гаворка ідзе пра ЗАТ "Аграпрадукт".*

Дырэктар таварыства Анатоль Астаф'еў расказаў, што яго здзіўляў шырокі асартымент імпартнай (і не заўсёды высокай якасці) макароны ў Беларусі. Ці не лепш закупіць абсталяванне і наладзіць вытворчасць на месцы? На гэта спатрэбілася каля 700 мільёнаў рублёў.

3 мая пачалі выпускаць свае макаронныя вырабы– вермішэль, локшыну, ражкі. Рэалізавана іх ужо на 1 мільярд 600 мільёнаў рублёў. Прайшло некалькі месяцаў, і прадукцыю таварыства цяпер пастаянна купляюць розныя заказчыкі не толькі з Мядзельшчыны, але і з Браслава, Глыбокага, Пастаў, Докшыцаў, Смаргоні, Слуцка і нават Барысава, хоць там працуе вядомая ў рэспубліцы макаронная фабрыка. Ёсць дамоўленасць з Мінскам, Масквой, Калугай, іншымі гарадамі.

Для вытворчасці макароны "Аграпрадукту" неабходны ўсяго тры кампаненты– мука, вада і так званы тэтразіп– выцяжка яйка, якую пастаўляе аўстрыйская фірма. Муку купляюць не проста вышэйшага гатунку, а менавіта вышэйшай якасці, тыпу "экстра".

У далейшым таварыства плануе арганізаваць вытворчасць таматнага соўсу. Затрымка пакуль з пастаўкай таматнай пасты і бульбяной мукі, якая ў Беларусі пакуль нідзе не выпускаецца.

*Яніна БУГЛАК.*

### В'етнамец пайшоў па руках

*ВІЛЕЙКА. Вясной дачка Яўгеніі Каркоткі, селекцыянер сельскагаспадарчага інстытута з Самахвалавічаў, прывезла маці насенне в'етнамскіх агуркоў. Беларуская глеба прыйшлася іншаземцу даспадобы. І ён пайшоў у рост.*

У агародзе выраслі два агуркі: паўтара метра і крыху больш за метр. Меншы з'елі. А другі пайшоў па руках карэспандэнтаў розных газет. Цяпер 150-сантыметровы в'етнамец (такі ж, як і рост прадстаўніка Азіі) знаходзіцца ў "Народнай газеце".

– На сёмы паверх рэдакцыі падымаў зяць, дык міліцыянер спачатку не пускаў, мабыць, думаў, кулямёт!– смяялася Яўгенія Васільеўна.

*Аддзел інфармацыі.*

### Дайце работу

*МАЛАДЗЕЧНА. Афіцыйна прадпрыемствы розных форм уласнасці павінны прадстаўляць цэнтру занятасці дадзеныя аб вакансіях.*

У горадзе і раёне паўтары тысячы прадпрыемстваў і толькі 90 з іх абвяшчаюць аб вакансіях. Дзе ж іх узяць, калі з пачатку года скарочана (дадзеныя на верасень) 973 чалавекі. Лідэр– завод "Спадарожнік"– пазбавіў работы 476 чалавек.

*Аддзел інфармацыі.*

Пачынаючы з гэтага года, згодна з рэкамендацыяй Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН, пераход на зімовы час будзе праходзіць у апошнюю нядзелю кастрычніка. Такім чынам, **стрэлкі сваіх гадзіннікаў перавядзіце на гадзіну назад у ноч з 26 на 27 кастрычніка.**

Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

**Працяг. Пачатак у №№28-34, 37, 39, 40. 41.**

***Працягваем змяшчаць пералік персанальных спраў вязняў турмы №26 у Вілейцы, якія былі перададзены ў 1941 годзе ў турму №1 УНКВД Разанскай вобласці без вязняў. Калі камусьці вядомы лёс згаданых людзей, просім звязацца з рэдакцыяй.***

| №, прозвішча | год нар. | Калі, кім арыштаваны, паводле якога арт. КК | У следстве (у чым распараджэнні) або пакараны па якім артыкуле |
|---|---|---|---|
| 92. Тарасевіч Марыя Мікалаеўна | 1882 | 28.06.1940 пракурор Мядзельскага р-на Вілейскай воб | 24.08.1940 нарсуд І інст. Мядзельскага р-на, арт. 217 КК БССР 3 г. |
| 93. Урбановіч Іосіф Уладзіслававіч | 1922 | 1.11.1940 ІІ аддзел упр. НКВД Вілейскай вобл. | 21.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 64, 76, 5 год |
| 94. Харэвіч Антаніна Андрэеўна | 1898 | 27.12.1940 ІІІ аддзел Упраўлення НКВД Вілейскай вобл. | 17.05.1941 надзв. нарада НКВД, арт. 22, 68 КК БССР, 5 год. |
| 95. Хволес Захарый Хаімавіч | 1892 | 4.12.1939 следчы НКВД Вілейскай вобл. | 12.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74, 5 год. |
| 96. Хадыка Баніфацый Канстанцінавіч | 1912 | 24.05.1941 нарсуд І інст. Куранецкага р-на Вілейскай вобл. | 24.05.1941 нарсуд І інст. Куранецкага р-на паст. ад 26.06.1940 |
| 97. Хавенскі Канстанцін Аляксандравіч | 1923 | 21.03.1941 нарсуд І інст. Куранецкага р-на Вілейскай вобл. | 21.03.1941 нарсуд І інст. Куранецкага р-на, паст. ад 26.06.1940, 4 месяцы |
| 98. Чаеўская Валянціна Іванаўна | 1924 | 17.06.1940 ІІІ аддзел Упраўлення НКВ Вілейскай вобл. | 4.09.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120, 68 КК БССР, 3 г. |
| 99. Чэрнікаў Іосіф Самуілавіч | 1882 | 30.09.1939 следчы УНКВД Вілейскай вобл. | 15.03.1941 Вілейскі аблсуд, арт. 74, 72 КК БССР, 10 г. |
| 100. Чапура Альфонс Іосіфавіч | 1882 | 13.05.1940 83 Слабадскі аддзел пагранвойск НКВД БССР | 17.08.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120, 5 год |
| 101. Чаўлытка Іван Паўлавіч | 1901 | 6.09.1940 пракурор Куранецкага р-на Вілейскай вобл. | 12.09.1940 н/суд І інст. Куранецкага р-на, арт. 94 КК БССР, 6 год |
| 102. Штылер Ванда Брунаўна | 1915 | 31.10.1940 следчы УНКВД Вілейскай вобл. | 12.04.1941 аблсуд Вілейкі, арт. 64 КК БССР, 8 год |
| 103. Шэнда Іван Піліпавіч | 1920 | 16.06.1941 нарсуд І інст г. Вілейкі | 16.06.1941 нарсуд І інст. Вілейкі паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 104. Шаховіч Віктар Адольфавіч | 1923 | 20.05.1941 нарсуд І інст. Крывіцкага р-на Вілейскай вобл. | 20.05.1941 нарсуд І інст. Крывіцкага р-на, паст. 26.06.1940, 4 мес. |
| 105. Штэйн Залман Нафтальевіч | 1883 | 26.04.1940 Ашмянскі аддзел п.войск НКВД, арт 120КК БССР | 26.08.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120, 3 гады |
| 106. Шкель Мікалай Кузьміч | 1906 | 20.05.1941 нарсуд І інст. Вілейскай вобл. , паст. 26.06.1940 | 20.05.1941 нарсуд І інст. Крывіцкага р-на, паст. ад 26.06.1940, 4 мес. |
| 107. Шлінгер Саламон Іцкавіч | 1916 | 8.04.1940 УНКВД Вілейскай вобл. | 10.08.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120 КК БССР, 3 гады |
| 108. Юхневіч Казімера Вінцэнтаўна | 1907 | 20.04.1940 Ашмянскі аддзел п.войск НКВД, арт. 120КК БССР | 21.08.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120 КК БССР, 8 год |
| 109. Юновіч Сцяпан Аляксандравіч | 1884 | 17.12.1940 Мядзельскі райаддзел УНКВД, арт. 74 КК БССР | 17.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74 КК БССР, 8 год |
| 110. Яхундовіч Іван Іванавіч | 1885 | 28.09.1940 Відзаўскі райад. НКВД БССР, арт 72 КК БССР | 12.05.1941 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 72 КК БССР, 5 год |
| 111. Мароз Аляксандра Сцяпанаўна | 1916 | 29.04.1941 нарсуд Куранецк. р-на | 29.04.1941 нарсуд І інст. Куранецкага р-на |
| 112. Рымдзёнак Уладзімір Іосіфавіч | 1921 | 17.06.1941 нарсуд І інст. г. Вілейкі, | 17.06.1941 нарсуд І інст. г.Вілейкі, паст. ад 26.06.1940. |

**Працяг будзе.**



## 5 ордэнаў за год вайны

*ВАЛОЖЫН. Удзельнік Вялікай Айчыннай Іван Марачэўскі мае 5 баявых ордэнаў: 2 Чырвонай Зоркі, 2 Айчыннай вайны, Баявога Чырвонага Сцяга. І атрымаў ён іх за адзін год вайны.*

Хлопца з Мядзельшчыны немцы павезлі на Украіну будаваць умацаванні. Малады, спрытны, ён збег з эшалона, трапіў да партызанаў. За год да заканчэння вайны "перакваліфікаваўся" ў разведчыка-вайскоўца дзеючай арміі. У баявой біяграфіі вызваленне Варшавы, апошні акорд вайны– узяцце Берліна. Пасля перамогі яшчэ паўтара года "наводзіў там парадак".

Іван Пятровіч і ў мірны час застаўся разведчыкам– выяўляў парушэнні як падатковы інспектар. У фінансавай сферы адпрацаваў да пенсіі і 10 гадоў пасля яе.

Аднойчы да яго завітаў малады чалавек, прапанаваў прадаць узнагароды. Не той узрост, каб праводзіць баявыя прыёмы, таму ветэран проста паказаў "госцю" на дзверы.

*Васіль САВІЦКІ.*

### Цытата нумара

Згодна з "Рымскім правам", народным трыбунам забаранялася прадстаўляць у народны сход нічога, што папярэдне не было б пастаўлена на абмеркаванне ў сенаце. Каб галасаванне было ў руках не немаёмных і самых смелых, але ў руках асоб, што маюць дастатак і цвярозы розум.

Пазней, калі гэтым законам сталі зневажаць, улада трыбунаў прыняла пераважна тытанічны характар і Рымская імперыя на працягу доўгага часу была ахоплена працяглымі кровапралітнымі войнамі.

Усё цячэ, усё змяняецца... (Апіян "Гражданские войны." пер. з грэч. Масква: Расійская палітычная Энцыклапедыя, 1994 г.)

Сакрэты вытворчасці

## Пакупнік разумее розніцу, таму і купляе нашу мэблю

*МАЛАДЗЕЧНА. За апошнія гады колькасць працуючых у аб'яднанні "Маладзечнамэбля" павялічылася на 300 чалавек і складае зараз 1240. Прадпрыемства працуе з ростам тэмпаў вытворчасці. Сярэдняя заработная плата складае тут 1 млн. 700 тыс. рублёў. Для рэгіёна гэта вельмі добры паказчык. Размова з галоўным інжынерам аб'яднання Мікалаем Піскуновым:*

– Два з паловай гады таму ў нас пачаўся выпуск мэблі з масіўнай драўніны дуба, бярозы і іншых каштоўных парод. Распрацавалі 25 варыянтаў набору корпуснай мэблі "Маладзечна". Сёлета на традыцыйнай асенняй выстаўцы, арганізаванай канцэрнам "Беллеспаперапром", экспануем новы набор мэблі для спальні "Рамонак", камплект для сталовай "Архідэя". Шырока прадстаўляем таксама на рэспубліканскім кірмашы "Мэбля-97" асноўны асартымент Вілейскай мэблевай фабрыкі, якая ўваходзіць у аб'яднанне.

***– Народнае аб'яднанне "Маладзечнамэбля"– самае стабільнае прадпрыемства ў горадзе. Як гэтага вы дасягнулі?***

– Перш за ўсё, за кошт пастаяннага аднаўлення асартыменту і пошуку новых тэхналогій. Укараняем абсталяванне з лікавым праграмным кіраваннем для апрацоўкі фасадаў мэблі з масіўнай драўніны каштоўных парод. Гэта дазваляе нарошчваць аб'ёмы прадукцыі з высакаякаснай сыравіны. Такая мэбля даражэй каштуе, але яна хутчэй знаходзіць пакупнікоў. Яны пачалі разумець розніцу паміж прымітыўнай мэбляй старых узораў і новай, дабраякаснай, на больш высокім мастацкім узроўні. 60% нашай прадукцыі набываецца пакупнікамі ў Расіі. Экспартныя варыянты пастаўляем у Германію. Заключаем дагаворы з гандлёва-закупачнымі фірмамі Беларусі.

***– У вас ёсць сакрэты арганізацыі вытворчасці?***

– Адзін з іх– скарачэнне часу ад чарцяжоў да выпуску гатовай прадукцыі. Дзеля гэтага мы адмовіліся ад набыцця дакументацыі на вытворчасць збоку– стварылі сваю групу па распрацоўцы і ўкараненню. Арганізавалі цэх па выпуску новых узораў мэблі, у якім ствараем першыя доследныя партыі вырабаў, дапрацоўваем іх. Да масавай вытворчасці дапускаюцца толькі добра выпрабаваныя наборы.

*Гутарыла Наталля РАБЧАНКА.*

## "Краяны" дзейнічаюць

***МАЛАДЗЕЧНА. З 1994 г. тут дзейнічае культурна-асветніцкае аб'яднанне "Краяны", якое з'яўляецца састаўнай часткай рэспубліканскай асацыяцыі ўкраінцаў "Ватра".***

У склад арганізацыі ўваходзяць не толькі ўкраінцы, але і тыя, каму неабыякавыя культура, побыт, традыцыі гэтага славянскага народа.

Аснову "Краяноў" складаюць каля 20 чалавек, якія пад кіраўніцтвам М. Слабадзюка рыхтуюць рознага роду мерапрыемствы, пасля чаго запрашаюць украінцаў і іх сяброў на вечары сустрэч.

Супрацоўніцтва з "Краянамі" пасадзейнічала таму, што ансамбль народнага танца "Магістраль" і народны хор ветэранаў вайны і працы пачалі выконваць украінскія песні і танцы. "Магістраль" нават ездзіла з канцэртам у Кіеў на фестываль "Всі ми діти твое, Украіна!", дзе была ўзнагароджана дыпломам аргкамітэта. Свае сустрэчы, канцэрты "Краяны" часцей за ўсё праводзіць у палітэхнікуме, адміністрацыя якога з разуменнем ставіцца да праблемаў аб'яднання. Вырашаць іх дапамагае намеснік дырэктара Т. Лубінская. На сустрэчы збіраецца шмат гледачоў, удзельнікаў.

*Надзея ЛІСАВА.*

Мы і наваколле

## Ракаў і стронгі пабольшала

*СМАРГОНЬ. Рыбаловы і спецыялісты аховы прыроды Смаргоншчыны расцэньваюць гэтую з'яву ў дробных рачулках раёна як заканамернасць.*

У пачатку 90-х гадоў была забаронена авіяхімапрацоўка сельгасугоддзяў, што прылягаюць да рэк. З гэтага ж часу дзейнічае і забарона па скарыстанню ядахімікатаў у сельскіх гаспадарках. Нестабільная работа прамысловых прадпрыемстваў горада таксама, як ні дзіўна, не магла не адбіцца на прыкметных зменах у экалогіі. Па дадзеных гарадской інспекцыі прыродных рэсурсаў, у 1991 годзе выкіды забруджвальных рэчываў са стацыянарных крыніц склалі 5 445 тон, у 1995 годзе– 1535 тон, амаль у 3 разы менш.

Добрыя змены ў экалогіі адчулі не толькі насельнікі вадаёмаў, а і лясных гушчароў. Колькасць многіх прадстаўнікоў фаўны ў лясах раёна за апошнія 5-6 гадоў значна павялічылася. Прырост пагалоўя зайцоў набліжаецца да дзвюх тысяч, казуль– да 200 галоў. Курапатак стала больш на 530. Больш ае і дзікоў.

А вось на ласёў сёлета прыйшлося забараніць паляванне– іх паменшала на паўсотні. Сур'ёзнай праблемай на Смаргоншчыне з'яўляецца сёння браканьерства. Штогод затрымліваецца больш за 200 лясных злодзеяў.

*Наталля РАБЧАНКА.*

Для тых, хто верыць Месяцу

## Месяцавы каляндар на лістапад

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Панядз<br>Мес.дз. | | 4<br>0-50<br>23 | 11<br>5.44<br>4.36<br>1-2 | 18<br>14.29<br>9 | 25<br>17.46<br>16 |
| Аўтор.<br>Мес.дз. | | 5<br>1.36<br>24 | 12<br>9.38<br>3 | 19<br>14§46<br>10 | 26<br>18.30<br>17 |
| Серада<br>Мес.дз. | | 6<br>2.41<br>25 | 13<br>10.44<br>4 | 20<br>15.12<br>11 | 27<br>19.20<br>18 |
| Чацвер<br>Мес.дз. | | 7<br>3.47<br>26 | 14<br>11.40<br>5 | 21<br>15.42<br>12 | 28<br>20.16<br>19 |
| Пятніца<br>Мес.дз. | 1<br>22.30<br>21 | 8<br>4.55<br>27 | 15<br>12.34<br>6 | 22<br>16.04<br>13 | 29<br>21.16<br>20 |
| Субота<br>Мес.дз. | 2<br>23.30<br>22 | 9<br>6.04<br>28 | 16<br>13.37<br>7 | 23<br>16.34<br>14 | 30<br>22.17<br>21 |
| Нядз.<br>Мес.дз. | 3<br>—<br>— | 10<br>7.16<br>29 | 17<br>13.52<br>8 | 24<br>17.08<br>15 | |
| Дата | | 3 лістапада | 11 лістапада | 18 лістапада | 25 лістапада |
| ФАЗЫ Месяца | | трэцяя чвэрць | маладзік | перш. чвэрць | поўня |

Усход Месяца– для Маладзечна

Крытычныя месяцавыя дні– 4, 9, 15, 19, 23, 26, 29– патрабуюць перасцярогі і абароны.

Спрыяльныя месяцавыя дні– 6, 10, 12, 16, 17, 30– даюць добрую энергію і падтрымку светлых сіл.

### Месяц у знаках Задыяка

| ДАТА | 2 | 5 | 7 | 9 | 12 | 14 | 16 | 18 | 20 | 22 | 25 | 27 | 29 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♌ | ♍ | ♎ | ♏ | ♐ | ♑ | ♒ | ♓ | ♈ | ♉ | ♊ | ♋ | ♌ |

## Зацьменні ў жыцці Ф. Скарыны

Але вярну чытачоў "РГ" з мінулага ў сучаснае. Можна ўбачыць адпаведныя паралелі ў жыцці чалавецтва, але на іншым узроўні эвалюцыі, у параўнанні з жыццём Ф. Скарыны. 1 мая 1996 года камета Хіякутаке-2 максімальна наблізілася да Сонца, у кастрычніку зрабіла апошнюю пятлю і паступова знікла ў глыбіні Космасу. Прапаную ўспомніць моманты зямных падзей, звязаныя з гэта каметай і зацьменнямі ў перыяд ад мая да месяцавага зацьмення 27 верасня і сонечнага 12 кастрычніка 1996 года:

– авіякатастрофы: ЗША, Расія і інш.

– тэрарызм: Пакістан, ФРГ, Іспанія, Расія, Беларусь.

– рэлігійны фанатызм: Латвія, апаганенне Свята-Духава сабора ў Мінску.

– стыхійныя бедствы: ураган (Берта), паводка ў Кітаі, землятрусы ў Французскіх Альпах, саранча ў Крыме, смерч у Лагойскім раёне.

Зацьменне Месяца 27 верасня ў першай дэкадзе Авена садзейнічала падпалам, пажарам лясоў, сухасці паветра. У Капыльскім лясгасе высахла больш за 200 га лясоў, узнікла біялагічная катастрофа, распладзіўся драўнінны жук.

Пік прыйшоўся на 26 верасня, калі ў Арменіі адбылася спроба дзяржаўнага перавароту, а ў Растоўскай вобласці– страшная трагедыя на чыгуначным пераездзе. Яўрэі і палесцінцы ніяк не могуць наладзіць узаемаадносіны.

*Іван ШУБЦІК.*

# Вясна на зямлі Сідаровічаў

***МАЛАДЗЕЧНА. Ірына частавала мяне смажанай гуссю. Не з рынку— сваёй. Іх цэлая "банда" бегае па двары. Разам з курамі налічыў пад 60. Стаміўся— перабягаюць з месца на месца. Са свіннямі прасцей. Дакладна— іх 17.***

Свіны рулет са спецыямі– тое, што трэба. Слівовае віно, казалі, без градусаў. Пажартавалі. На стале– усё сваё. Толькі хлеб з магазіна ды цыгарэты. Утульна сядзець у сям'і Сідаровічаў, сваіх былых маладзечанскіх суседзяў.

Са школы Ірына заўсёды спяшалася дамоў на вуліцу Талстога ў дзяржаўную двухпакаёўку-"хрушчоўку". Бывала, па дарозе сустракала суседа Дзіму, які дапамагаў цягнуць партфель са школьнымі падручнікамі. Неўзабаве сем'і з трэцяга і чацвёртага паверхаў парадніліся.

Маладыя, акрамя замкаў на пяску, марылі пабудаваць сабе дом. Дзеля гэтага Дзіма прапісаўся да цешчы. Імкнуўся мець участак пад будаўніцтва, а атрымаў паведамленне: "Вы наўмысна пагоршылі свае жыллёвыя ўмовы, таму ні ўчастка, ні дзяржаўнага жылля не атрымаеце".

У той час патрэбны былі спецыялісты на раёне. Рызыкнулі– і пашчасціла: адразу знайшлі работу. А праз два месяцы ўсяліліся ў цагляны дом. Так гараджане прапісаліся ў вёсцы Маркава. Ірына працавала дыспетчарам, а Дзмітрый энергетыкам у калгасе.

Так бы спакойна Сідаровічы і жылі. Але "падвяла" радаслоўная. У гаспадара прапрабабка была фрэйлінай у цара. У падарунак атрымала маёнтак у раёне Лясных. Так яе нашчадак і стаў першым фермерам у раёне. Узялі 50 гектараў, калі на кніжцы ў ашчадным банку ляжала 5 рублёў. Не было сваіх людзей ні ў камерцыйных структурах, каб пазычыць грошы, ні сярод прадстаўнікоў улады. Грошы ад вяселля неяк разышліся. А за страхоўку купілі секцыю.



Пачалі яны з вучобы, Дзіма праз сялянскі саюз уладкаваўся... парабкам у Германіі да свайго калегі-фермера. За 300 марак у месяц што толькі ні рабіў. Не выратавала і спецыялізаваная "англамоўная" СШ№6. Немец трапіўся "нецывілізаваны" і акрамя нямецкай мовы ніякую не ведаў. Так "практыкант" з вілкамі і слоўнікам амаль год адпрацаваў і адвучыўся.

Дома справы пайшлі. Сама маці-прырода дапамагае. Праз вёску праходзіць беларуска-літоўская града. Там яшчэ снег, а тут ужо вішня цвіце. Ну, а калі без жартаў– клімат больш цёплы.

Пасля 5 гадоў фермерства ў Сідаровічаў два трактары, камбайн, бульбакапалка, сеялкі, плугі... І легкавік.

У перспектыве– будаўніцтва свінафермы на 80 свінняў– ужо ўзведзены сцены. Адкуль былыя гараджане ўсё ўмеюць (нават Ірына водзіць трактар)?

– Вучымся на сваіх памылках,– гаворыць гаспадар,– сёлета пасеяў лубін і хіміяй увесь спаліў. А наогул зямлю трэба даваць тым, хто ўмее на ёй працаваць. Каб ведаў, што стану фермерам, сеў бы ў калгасе за трактар. За 4 гады (стаж працы ў калгасе) шмат чаму навучыўся б.

Сідаровіч сам за рабочага, бухгалтара і начальніка. Дома на паліцах даведачная літаратура. Аднак кнігі ніколі не заменяць парады людзей– у вёсцы ёсць нават свой кандыдат сельскагаспадарчых навук.

У фермераў дзве дзяўчынкі-прыгажуні. Наташы 11, Лене 9. Школьніцы занятыя вучобай, сваімі дзіцячымі праблемамі. І дапамагаюць бацькам даглядаць кошак і сабак.

***Васіль САВІЦКІ.***

## Куды "Спадарожніку" да "Зеніта"!

У адпаведнасці з распараджэннем прэзідэнта, Міністэрства фінансаў прадаставіць некаторым прамысловым прадпрыемствам на тэрмін 6 месяцаў за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту пазыкі для ліквідацыі запазычанасцей па зарплаце. Агульная сума выдзяляемых грошай - 35,4 млрд. руб. Чацвертую частку рэспубліканскага "пірага" адхапіў наш рэгіён.

4312 млн. руб. з іх атрымае вілейскі завод "Зеніт", 2831 млн. руб. - смаргонскі завод аптычнага станкабудавання, 1232 - смаргонскі агрэгатны завод. Смаргонцы грошы пачалі ўжо атрымліваць.

Астатнім грандам рэгіянальнай прамысловасці не пашчасціла. "За бортам" засталіся нават маладзечанскія "Спадарожнік", "Электрамодуль", хаця пазыка была б не лішняя і для іх.

***А.Х.***

## На мяжы– "Заслон" і "Рубеж"

***АСТРАВЕЦ. Чатыры вераснёўскія дні і ночы, што называецца "на ўзводзе", былі супрацоўнікі мытні. Яны сумесна з мясцовымі пагранкамендатурай і міліцыяй правадзілі аперацыю "Заслон".***

Падчас гэтых дзеянняў у кантрабандыстаў канфіскавана 2 адзінкі газавай зброі і 15 патронаў да яе, 3080 долараў ЗША і іншае "дабро". Але больш за ўсё здзівіў затрыманы непадалёку ад вёскі Петраполь аўтамабіль "ВАЗ", які ляснымі дарожкамі накіроўваўся да нас у госці. Пры аглядзе яго супрацоўнікі мытні выявілі электратавараў на суму ў $4000. Былі там дрылі, станкі.

Усяго ж агледзелі пад час аперацыі 3880 транспартных адзінак.

У сваю чаргу ў Астравецкай пагранкамендатуры ідзе аперацыя "Рубеж". Аб яе ходзе і выніках у адным з наступных нумароў.

***Маркел' АНДРЭЙЧЫК.***

## Удача побач

***МАЛАДЗЕЧНА. Днямі знаёмы вырашыў напаткаць удачу ў імгненнай аўталатарэі, якая спакуслівa прапанавала выйграць "Таёту". Перад жанчынай-прадаўцом у кіёску "Спортлато" ляжалі некалькі білетаў.***

– Выбірайце любы,– кажа.

І працягвае манету, каб сцерці напылены пласт, пад якім схаваная "удача". З'явіліся лічбы розных мільёнаў, два малюнкі машын, потым надпіс: "Удача рядом".

– Рызыкну яшчэ раз,– вырашыў у азарце гулец.

І пачаў з другой латарэйкі сціраць серабрыстае напыленне. Павольна: вось цяпер пашанцуе.

– Крыўдна будзе,– заўважае між іншым мне. – Зараз з'явіцца выйгрыш, а білет будзе залічаны несапраўдным. Бачыш, унізе поле з надпісам "Не сціраць". А яно пашкоджанае.

Пад нязначнай, быццам бы выпадковай, рыскай пры ўважлівым разглядзе заўважаем лічбу "О". Пэўна, нулі на гэтым полі азначаюць нявыйгрышны білет. І сапраўды, зноў выпадае "Удача рядом".

– Чакайце,– кажа гулец,– папярэдняя латарэйка таксама была з пашкоджаным кантрольным полем.

Ён хутка скемлівае. Білеты, што ляжаць перад прадаўцом, усе з пашкоджаннем, з нулікамі, якія выглядаюць з-пад рысак. І толькі выстаўленыя пад шкло ў кіёску не маюць іх.

– Чаму вы мне далі пашкоджаныя білеты?– звяртаецца мой знаёмы да жанчыны-прадаўца.

– Не ведаю нічога,– захвалявалася тая.– Не звяжайце на гэтыя рыскі. Калі білет выйграе, вы ўсё адно атрымаеце грошы.

Тлумачэнне на адваротным баку латарэйнага білета супрацьлеглае: білеты з пашкоджаным кантрольным полем не лічацца сапраўднымі. Але факт, што прадаюцца з пашкоджаннем толькі пройгрышныя білеты.

Таму, аматары імгненнай удачы, будзьце ўважлівыя: на вашых азартных пачуццях гуляюць не толькі афіцыйныя арганізатары латарэй.

***Святлана САРОКА.***

## Здарэнні

## Шукалі труп– знайшлі два

***ВІЛЕЙКА. Аляксандра шукалі тыдзень– з таго дня, як жонка звярнулася ў міліцыю.***

Пазней успомнілі, што аднойчы раніцою тэлефанаваў знаёмы Аляксандра Валера Пазнякоў. Быццам, у яго кватэры труп. Да гэтага ніхто сур'ёзна не паставіўся– выпіў чалавек лішку. І ўсё ж пазней вырашылі правярыць. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку знайшлі ў кватэры Пазнякова на вуліцы Першамайскай аж два трупы.

Па заключэнні судмедэкспертызы, госць (Аляксандр) атруціўся гарэлкай. А гаспадар перарэзаў сабе вены. Магчыма, спалохаўся адказнасці за цёплы прыём сябра.

***Аддзел інфармацыі.***

## Як у амерыканскім баявіку

***ВАЛОЖЫН. Некаторым жыхарам у той нядзельны дзень здалося, што здымаецца кіно. Шматпавярховы жылы дом акружылі машыны пажарнай і газавай службы, міліцыя. Усіх жыхароў папрасілі пакінуць кватэры.***

А справа ў тым, што грамадзянін С. на добрым падпітку ўключыў газ і хацеў ці то скончыць жыццё самагубствам, ці то ўзарваць дом. Дзякуючы аператыўным дзеянням усіх службаў, злачынца быў абясшкоджаны.

Аказваецца, гісторыя пачалася ў той дзень на некалькі гадзін раней. У міліцыю патэлефанавала былая жонка С. і папрасіла паратунку, бо той учыніў у кватэры бойку. Аднак здавацца супрацоўнікам міліцыі С. не пажадаў і сiгануў з балкона трэцяга паверха. Нездарма гаворыцца, што п'янаму і мора па калена. Урачы канстатавалі толькі пералом рукі. Пасля аказання медыцынскай дапамогі, "хворы" уцёк з бальніцы, каб "падняць на ногі" увесь дом.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

## Шкодна, усё ж, курыць

***ВІЛЕЙКА. Здарыўся пажар у вёсцы Беражок Хаценчыцкага сельсавета.***

Пажарныя знайшлі ў жылым доме труп А. Курца. Прычынай смерці беспрацоўнага сталі чадныя газы. А, у сваю чаргу, прычынай з'яўлення іх– курэнне ў нецвярозым стане ў пасцелі.

У вёсцы Клыні Куранецкага сельсавета знутры загарэўся вагончык вартаўніка доследнай вытворчай гаспадаркі. Дваццацідзевяцігадовы вартаўнік В. Грыгаровіч задыхнуўся.

***Алена АЛЬФЕР.***

***Ідзе падпіска на першае паўгоддзе 1997 года. Кошт падпіскі на "Рэгіянальную газету" на адзін месяц– 8 тыс. руб., на тры месяцы– 24 тыс. руб., на паўгоддзе– 48 тыс. руб. Самы надзейны спосаб застацца з "Рэгіянальнай"– падпісацца на яе. У наступным годзе наша газета будзе паступова працягваць працэс "патаўсцення", пашырыцца тэматыка і геаграфія навін. Большае месца зоймуць займальныя матэрыялы.***

***Падпісная цана на рэшту 1996 года засталася ранейшай– 4 тыс. на месяц.***

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на** 63212 (індэкс выдання)

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ** Колькасць камплектаў

На 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА на** 63212 (індэкс выдання)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

